


# Дняпроўская СТРОМА




**№ 19** *сакавік 2013 г.*



Выдаецца з мая 2012 г.

**ЛІТАРАТУРНА - МАСТАЦКІ І ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ**
**МАГІЛЁЎСКАГА АДДЗЯЛЕННЯ ГРАМАДСКАГА АБ'ЯДНАННЯ «САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ»**

## Белае полымя сакавіка




**Яшчэ ляжыць пад снегавой аблогай вясковы шлях, а на палях, што побач, з'яўляецца нешта дзіўнае: стаяць тырчком, нібы белае полымя, камячкі снегу і, самі халодныя, адбіваюць сонечны свет навокал. І ўкруг іх, аж да самай травы, шырэюць цёплыя плямы, адкуль, як здаецца, і пачынае дыхаць зямля сакавіцкімі водарамі -- і ўсё ніяк не можа надыхацца пасля пранізлівых лютаўскіх завей…**

***Мікола ЯЦКОЎ.*** Фотаздымкі аўтара.

## Сустрэча з Народным паэтам



*Мікола Яцкоў, Зміцер Салаўёў. Надзея Салаўёва, Ялінка Салаўёва, Ніл Гілевіч*



**3 сакавіка 2013 г. адбылася сустрэча Народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча з Ялінкай Салаўёвай – адзінай вучаніцай адзінага беларускамоўнага класа школы № 1 г. Магілёва. Ніл Сымонавіч з цікавасцю і прыязнасцю пазнаёміўся з бацькамі Ялінкі – Надзеей і Зміцерам. Дзяўчынка прачытала верш Ніла Сымонавіча і ўручыла паэту падарунак, зроблены сваімі рукамі. За кубачкамі гарбаты адбылася сяброўская гутарка, дзе размова пра беларускасць і родную мову перапляталася з успамінамі і чытаннем разнастайных вершаў.**

**У сустрэчы прыняў удзел старшыня магілёўскага аддзялення ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" Мікола Яцкоў.**



*Фота Ялінкі на кніжнай паліцы паэта*

### Ялінка абараняе Беларусь

*Мяне вельмі ўзрушыў матэрыял у "Народнай Волі" "Няўжо беларусы забіваюць апошні цвік у сваю дамавіну?". Помніце — пра Ялінку Салаўёву з Магілёва — **адзінную** вучаніцу **адзінага** беларускамоўнага 3-га класа ў горадзе*

### Мы кажам — і яшчэ не раз скажам — дзякуй Ялінцы і яе бацькам

*Дарагой Ялінцы дару гэтую кнігу казак Уладзіміра Караткевіча "ЛЕБЯДЗІНЫ СКІТ", якую мне давялося аздобіць, з пажаданнем здароўя, шчасця і поспехаў у вучобе. Няхай вялікая любоў да нашай Бацькаўшчыны Беларусі — гістарычнай Літвы — прынясе табе, Ялінка, творчую, навуковую, жыццёвую ўдачу! Вер у свае сілы і розум. Іх ты здабудзеш у натхнёнай вучобе ў беларускай мове, што дае асновы нашай цяпершчыны і надзею на нашу шчаслівую будучыню.*

*З найлепшымі зычэннямі ў 2013 годзе і на доўгае шчаслівае жыццё.*

*Жыве Беларусь!*

Дэмакратычнае грамадства Беларусі павінна ўсяляк падтрымаць Ялінку Салаўёву, вучаніцу беларускага 3-га класа ў Магілёве і яе бацькоў за іх свядомы выбар. Нацыянальная школа — гэта най-

лютнай большасці не ведаюць беларускага буквара, не бачылі яго наогул. У некаторых гарадах няма беларускага тэатра. Рускамоўныя газеты "Заря", "Гродненская

### Ялінка Салаўёва дагэтуль адна ў класе

*У Магілёўскай школе №1 у адз… Салаўёва. Раней у дзяўчынкі былі … іншую школу. Пасля таго, як "Нар… жаль, не змянілася.*

### Няўжо беларусы забіваюць апошні цвік у сваю дамавіну?

*У Магілёве трэці год існуе адзіны ў горадзе беларускамоўны клас. Паўтара года ў ім вучылася трое дзетак. Цяпер засталася толькі адна вучаніца— Ялінка Салаўёва.*

*Загалоўкі газетных артыкулаў пра Ялінку Салаўёву*

*Эдуард ВАЛАСЕВІЧ*

О, мова матчына пявучая мая!
Густая, нібы мёд, іскрыстая, як сонца,
Вясёлак фарбы тут, і трэлі салаўя,
І звон крыніц, і шум лясоў бясконцы...

Нікога ты не прыгнятала на зямлі,
Ты адкрывала свет, сыноў сваіх натхняла,
Давала сілы нам у грозны час навалы,
З табою шчасце светлае мы здабылі.

Ў табе наш дух нязломны, наша плоць і кроў,
І думы продкаў, і нашчадкаў мудрых справы,
Гісторыя народа, і жыццё дзяржавы.

Вітаеш хлебам-соллю дарагіх сяброў,
Ім шчыра раскрываеш і душу, і сэрца,
І ў дружбе моц твая, і слава,
і бяссмерце!

## Нашы юбіляры



► Споўнілася 95 год Мікалаю Гаўрылавічу ТКАЧОВУ – пісьменніку і журналісту.

Нарадзіўся 8 сакавіка 1918 года ў вёсцы Горанка Краснапольскага раёна Магілёўскай вобласці ў сялянскай сям'і. Скончыў планава-эканамічны факультэт Беларускага Дзяржаўнага Інстытута народнай гаспадаркі імя В. Куйбышава. У час Вялікай Айчыннай вайны Мікалая Ткачова прызвалі ў Чырвоную армію, удзельнічаў у баях на фронце і партызанскай барацьбе ў тыле ворага.

Пасля Перамогі працаваў адказным сакратаром у рэдакцыі магілёўскай абласной газеце «За Радзіму», узначальваў літаб'яднанне «Прыдняпроўе» пры гэтай газеце. Пасля пераезду ў Мінск быў адказным сакратаром часопіса «Полымя», галоўным рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва» (1957-1959). З 1959 і па 1972 год займаў пасаду адказнага сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, затым заснаваў і ўзначаліў як дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» (1972-1979).

Памёр 20 красавіка 1979 г.

Сёння цэнтральная раённая бібліятэка ў Краснаполлі носіць імя Мікалая Ткачова.

► Споўнілася 95 год Эдуарду Станіслававічу ВАЛАСЕВІЧУ – беларускаму пісьменніку.

Нарадзіўся 12 сакавіка 1918 года ў Магілёве ў сям'і чыгуначніка. Вучыўся ў чыгуначнай сямігодцы. У 1935-1936 г.г. працаваў грузчыкам на чыгунцы. Скончыў літаратурны факультэт Магілёўскага педагагічнага інстытута. З 1941 г. у Чырвонай Арміі – у знішчальным батальёне, потым у дзеючай арміі на Бранскім, Заходнім франтах. Быў цяжка паранены. З лістапада 1943 г. працаваў у Дзяржаўным архіве Аджарскай АССР (г. Батумі). З 1944 г. выкладаў фальклор і рускую літаратуру ў Магілёўскім педінстытуце. Загадваў аддзелам у абласной газеце «За Радзіму». У 1952 г. пераехаў у Мінск. Працаваў у часопісах «Полымя», «Вожык», у Белдзяржфілармоніі, быў дырэктарам Беларускага аддзялення Усесаюзнага агенцтва па аўтарскіх правах СП СССР.

У друку выступаў з 1938 г. Сябра СП СССР з 1950 г. Узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны II ступені і медалямі.

Памёр у 1997 г.



№ 19 сакавік 2013 г.

# Нашы юбіляры



► Споўнілася 60 год **Уладзіміру Пятровічу БУТРАМЕЕВУ** – беларускаму пісьменніку і драматургу.

Нарадзіўся 20 сакавіка 1953 г. ў вёсцы Расна Горацкага раёна Магілёўскай вобласці ў сям'і настаўнікаў. У 1974 г. скончыў геаграфічны факультэт Магілёўскага педагагічнага інстытута. Працаваў у школах Горацкага і Чэрыкаўскага раёнаў настаўнікам і загадчыкам навучальнай часткі. У 1980 г. пераехаў у пасёлак Альбярцін на Слонімшчыне. Працаваў на Слонімскай папяровай фабрыцы, настаўнікам у вячэрняй школе, у Слонімскім прафесійна-аматарскім тэатры. У 1986 г. скончыў Вышэйшыя двухгадовыя курсы сцэнарыстаў і рэжысёраў у Маскве, атрымаў спецыяльнасць кінадраматурга. У 1989 г. залічаны на Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Член СП СССР з 1987 г.

У друку выступае з 1982 г. Піша на расійскай і беларускай мовах. Аўтар кніг апавесцяў і апавяданняў.

Напісаў п'есы «Ізноў Несцерка», «Страсці па Аўдзею», аднаактоўку «Живите надеждой». Адзін з аўтараў сцэнарыя тэлефільма «Наш сад» .

# Нарадзіліся ў сакавіку

► 1 сакавіка 1926 г. у в.Хутар Быхаўскага раёна (цяпер Чавускі раён) нарадзіўся **Барыс Васільевіч СТРАЛЬЦОЎ** – паэт.

► 2 сакавіка 1942 г. у в.Комсенічы Круглянскага раёна нарадзіўся **Віктар Іванавіч ЛУЖКОЎСКІ** – паэт.

► 3 сакавіка 1919 г. ва урочышчы Застар'е Клічаўскага раёна нарадзіўся **Мікола Ігнатавіч ТАТУР** – паэт, перакладчык, крытык.

► 4 сакавіка 1924 г. у в. Палішына Горацкага раёна нарадзіўся **Аляксандр Фаміч КОРШУНАЎ** – літаратуразнавец.

► 6 сакавіка 1915 г. у в. Княжыцы Магілёўскага павета нарадзіўся **Васіль Іванавіч МАТЭВУШАЎ** – паэт.

► 9 сакавіка 1911 г. у м.Хоцімск нарадзіўся **Аляксей Аляксандравіч ЗАРЫЦКІ** – паэт.

► 10 сакавіка 1915 г. у г. Бабруйск нарадзіўся **Піня (Пінхас Абрамавіч) ПЛОТКІН** – паэт.

► 10 сакавіка 1920 г. у в.Барбарова Глускага раёна нарадзіўся **Аркадзь Нічыпаравіч МАРЦІНОВІЧ** – празаік, паэт.

► 17 сакавіка 1922 г. у г. Магілёў нарадзіўся **Ілля Сямёнавіч КЛАЗ** – празаік.

► 20 сакавіка 1952 г. у в.Забалоцце Чавускага раёна нарадзіўся **Аляксандр Міхайлавіч ЕМЕЛЬЯНАЎ** – паэт.

► 22 сакавіка 1920 г. у в.Высокі Барок Краснапольскага раёна нарадзіўся **Аляксей Васільевіч ПЫСІН** – паэт, перакладчык.

► 31 сакавіка 1952 г. у в.Чарняўка Хоцімскага раёна нарадзіўся **Алег Гаўрылавіч МІНКІН** – паэт, драматург.

# Дзеля чаго задумана беларускае пяціборства?

Ужо другі год традыцыйная беларуская дыктоўка да дня роднай мовы ў Магілёве дапаўняецца беларускім пяціборствам для дарослых. Каля шасцідзесяці магілёўцаў прыйшлі 3 сакавіка ў белую залу абласнога палаца культуры пісаць тэкст Максіма Гарэцкага пад дыктоўку настаўніка беларускай мовы Юрася Каласоўскага, які толькі што перамог у гарадскім конкурсе «Настаўнік

*Беларускае пяціборства для ўсіх-II* *Магілёў 3 сакавіка 2013 года*
Спаборнік № 86
Прозвішча, імя, форма кантакту
**1а**) Падняўшыся на трэці паверх, Вася налічыў 60 прыступак. Колькі прыступак ён налічыць, падняўшыся на шосты паверх? (А як развязваў бы гэтую задачу жыхар Магдэбурга?)
*Адказ:* у Магілёве прыступак; у Магдэбургу прыступак.
*Патлумачэнне:*

**Заданне 2. Літаратура**

*Ці ведаеце вы літаратараў, якія маюць дачыненне (фактам нараджэння ці сваёй дзейнасці) да Магілёўшчыны? Назавіце прозвішча, імя і (хаця б прыблізна) год нараджэння:*

***а***) Маскоўскі паэт, які пераклаў на расійскую мову “Слова аб палку Ігаравым” і “Песню пра зубра”.

***б***) Сучасны старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў. Піша таксама музыку для песень.

***в***) Адзін з найстарэйшых сябраў Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў, ініцыятар стварэння і першы кіраўнік Магілёўскай філіі Таварыства беларускай мовы.

***г***) Беларускі паэт, празаік, публіцыст, перакладчык. Лаўрэат некалькіх літаратурных прэмій, заслужаны работнік культуры Беларусі, узнагароджаны медалём Францішка Скарыны. За свае творы быў двойчы рэпрэсаваны. Аднойчы для сваёй сібірскай знаёмай, якая казала, што беларуская мова нічым не адрозніваецца ад рускай, склаў верш “Ветразь”, дзе былі адмыслова беларускія словы. Яна нічога ў тым вершы не зразумела, і ён зрабіў для яе аўтапераклад. Палюбуйцеся:

*У выраі ветразь знікае*
*За хваляй, нібы на спачын,*
*І змора яго не злякае,*
*Не спыніць тугой далячынь.*
*У змроку зіхоткая здрада*
*Завабіць хлуснёй у віры,*
*На золку сканае прынада*
*І кволы прамень на жвіры.*

*Раптоўна згаданьня мроі*
*Ў карунках пяшчотнай тугі*
*Павольна знікаюць, як строі,*
*Ў бязважкасці кволай смугі.*
*Знікае ўсхвалёваны ветразь*
*З кунегаю пільна сачу,*
*Як водар аздобіў паветра,*
*І ў бездані знічкі лічу.*

*Парус, как белую стаю,*
*Волна на покой унесла,*
*Он лёгким виденьем растает,*
*Угроз не пугаясь и зла.*
*Сусальною блёсткой измена*
*Заманит в крутую волну.*
*Растает шипящая пена,*
*К седому прильнув валуну.*

*Нежданно мечты и надежды*
*Исчезнут, как лёгкий туман,*
*И, как привиденье, одежды*
*Спадут, как мираж и обман.*
*Взволнованный парус исчезнет,*
*Как пламя дотлевшей свечи,*
*А я над бушующей бездной*
*Считаю созвездья в ночи.*

*Адказы*: ***а***) **Ігар Шклярэўскі** (нар.25.06.1938 у Бялынічах); ***б***) **Мікола Яцкоў** (нар.22.05.1959 у Магілёве, жыве ў Брылях); ***в***) **Яраслаў Клімуць** (нар. 10.01.1940 на Мастоўшчыне), кандыдат філалагічных навук, дацэнт, доўгі час быў дэканам філалагічнага факультэта Магілёўскага педагагічнага інстытута (універсітэта); ***г***) **Сяргей Грахоўскі** (1913-2002); нарадзіўся на Піншчыне, але дзяцінства і юнацтва прайшлі ў Глуску; яго дакумэнтальныя аповесьці «Зона маўчання», «З воўчым білетам», «Такія сінія снягі» лічацца беларускімі аналагамі «Архіпэляга ГУЛАГ» А. Салжаніцына. 25 верасня адзначым яго 100-гадовы юбілей.

года-2013». 34 з іх узялі ўдзел у пяціборстве. Чаму не ўсе? У людзей, асабліва сталага веку, яшчэ з часоў савецкай школы засталося ў свядомасці такое: калі я нечага не ведаю, то я дурань. На жаль, нярэдка і зараз, калі вучань прыйшоў у школу з непадрыхтаваным хатнім заданнем, настаўнік накідваецца на яго з словамі «дурань», «дэбіл», «недавумак» ды інш. Але тут варта ўспомніць славутага ўкраінскага настаўніка Васіля Сухамлінскага, які аднойчы звярнуўся да сваіх калегаў-настаўнікаў з заклікам «Паважайце няведанне!» Сапраўды, няведанне – не грэх і не загана. І калі чалавек лічыць сваё няведанне недахопам свайго развіцця, то ад гэтага недахопу сёння можна без цяжкасці пазбавіцца. Дапамагчы людзям усвядоміць хібы сваёй адукацыі і часткова залапіць іх па найбольш істотных пазіцыях чалавечага развіцця і ёсць галоўнай мэтай праекта «Беларускае пяціборства».

Па заканчэнні спаборніцтва кожны спаборнік атрымаў аркуш з адказамі, адкуль даведаўся (калі не ведаў раней) і пра асаблівасці нацыскаў у беларускіх словах, і пра магілёўскіх паплечнікаў Каліноўскага, і пра найбольш выбітных сябраў рады БНР, і пра пісьменнікаў, якія маюць дачыненне да Магілёўшчыны, і пра тое, калі трэба і калі не трэба баяцца навальніцы, ды пра шмат што яшчэ. А тыя, хто што-ніштo з гэтага ведаў і зарабіў сваім веданнем высокія балы, атрымалі прызы пяціборства.

Першае месца заняў старшыня гарадской арганізацыі ТБМ Алег Дзьячкоў, дзякуючы высокім балам у гуманітарных намінацыях (лепшыя адказы ў намінацыях «гісторыя» і «літаратура»). На другім месцы ўжо памянуты тут Юрась Каласоўскі. Трэцяе месца заняў малады хлопец Іван Вус, які ў гуманітарных намінацыях атрымаў мала балаў, але быў лепшым у матэматыцы і прыродазнаўстве. Будзе штуршок для хлопца падмацаваць свае веды ў гісторыі сваёй краіны, яе мове і літаратуры. Але найбольш здзівіла галоўны архітэктар праектнага бюро ўпраўлення архітэктуры гарвыканкама Ала Маскалькова, якая перамагла ў намінацыі «мова». Перамагла, нягледзячы на тое, што ў спаборніцтве бралі ўдзел некалькі настаўнікаў беларускай мовы.

Удзел у беларускім пяціборстве ўзяў і палітык Рыгор Кастусёў з дачкой. І паказаў някепскія вынікі – VI месца.

Астатняя інфармацыя – на фотаздымках. Варта звярнуць увагу на фота, дзе спаборнікі чытаюць аркушы з адказамі – дзеля гэтай хвіліны і задумана беларускае пяціборства.

**Міхась БУЛАВАЦКІ**





Старшыня журы Міхась Булавацкі

Базыль Камароў



Алена Асмакоўская



Кацярына і Рыгор Кастусёвы



Пераможца Ала Маскалькова



Узнагароджваецца Юрась Каласоўскі



Іван Вус радуецца сваёй перамозе



Першае месца ў Алега Дзьячкова



Фотаздымкі Надзеі Бацілавай

# Гучалі вершы і песні

13 сакавіка 2013 года клуб "Субяседнік", які працуе пры магілёўскай гарадской бібліятэцы імя К.Маркса, запрасіў на сустрэчу з магілёўскім паэтам і кампазітарам, старшынём Магілёўскага аддзялення ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" Міколам Яцковым. Гучалі вершы ў аўтарскім выкананні, а потым спадар Мікола пазнаёміў прысутных са сваімі песнямі на вершы беларускіх паэтаў Эдуарда Акуліна, Кастуся Севярынца, Раісы Баравіковай, Тамаша Ляшонка і іншых. Адбылася таксама прэм'ера – упершыню прагучала песня "Жыві, мая кахаая" на верш магілёўскага паэта Леаніда Осіпава. Аўтар слоў, які прысутнічаў на вечарыне, расказаў гісторыю ўзнікнення твора, які заснаваны на рэальных гістарычных фактах. Напрыканцы сустрэчы ў агульным выкананні прагучала "Песню бярыце з сабою" на легендарныя словы народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча.


Мікола Яцкоў



Паэт Леанід Осіпаў

*Сяргей ПІСЬМЕННЫ.*

Фотаздымкі Алы Яцковай і Міколы Яцкова.

Магілёўскія ведамасці
www.mogved.by № 28 (3567). Чацвер, 11 красавіка 2013 года

## Встреча с поэтом и композитором

В Центральной городской библиотеке им. К.Маркса в рамках заседания литературно-художественного клуба «Собеседник» состоялась творческая встреча с могилевским поэтом и композитором, автором музыки гимна Могилева Николаем Яцковым. В теплой обстановке прозвучали лучшие песни на стихи белорусских поэтов Э.Акулина, Р.Боровиковой, В.Туфанова, А.Казеки и др. в исполнении автора и Аллы Яцковой.

Весенним сюрпризом для присутствующих стала премьера новой песни на стихи могилевского поэта Леонида Осипова «Жыві, мая каханая!». Автор слов рассказал историю создания этого произведения, в основу которого положен реальный исторический факт. Мероприятие сопровождалось электронной презентацией.



Встреча вызвала живой интерес у публики.

*Ирина ТИНЯКОВА, библиотекарь ЦГБ им.К.Маркса.*

Прыдняпроўская ніва
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА МАГІЛЁЎСКАГА РАЁНА
№ 18 (8472) 16 САКАВІКА 2013 г. СУБОТА

## Тамара Аўсяннікава

У лесе я не адна,
У лесе не адзінокая,
Што бярозка, то мне сястра,
І сяброўкай — сасонка кожная.
Абдыму я іх па чарзе,
Галавой прыхілюся,
Верхаліна ласкава шапне:
"Не хвалюйся".
Нібы голас ахоўны маці...
І на сэрцы стала святлей.
Быць у лесе — такое шчасце!
Я ў прыроды ўзяла прычасце —
Жыць на свеце цяпер лагадней.

# Шчырая размова

21 сакавіка 2013 г. у магілёўскай абласной бібліятэцы намаганнямі грамадскага аб'яднання "Рускае культурна-асветніцкае грамадства" ў рамках святкавання Міжнароднага дня паэзіі быў праведзены "круглы стол" "Роля сучаснай літаратуры ў грамадска-патрыятычным выхаванні моладзі". Для ўдзелу былі запрошаны прадстаўнікі мясцовых грамадскіх суполак, у тым ліку Саюза беларускіх пісьменнікаў і "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны".



Удзельнікі акрэслілі і абмеркавалі шырокае кола пытанняў развіцця сучаснай літаратуры, школьнага выхавання, фарміравання высокаінтэлектуальнай асобы сённяшняга беларуса, які павінен упэўнена глядзець у сваю будучыню.


Старшыня ГА «Рускае культурна-асветніцкае грамадства» Людміла Валодзька


Тамара Аўсяннікава

Аб працы гарадскога літаратурнага клуба "Святліца" распавяла яго кіраўнік, сябра СБП Тамара Аўсяннікава. Яна пазначыла ўсе праблемныя кропкі гэтай дзейнасці і падкрэсліла, што сярод маладых творцаў мацнее імкненне да беларускай мовы і цікавасць да сваіх вытокаў. Удзельнікі "Святліцы" Алена Быкава і Настасся Падрабінкіна прачыталі свае вершы, прысвечаныя роднай мове і Айчыне.


Настасся Падрабінкіна


Мікола Яцкоў і Юрась Каласоўскі

Аб крэатыўных напрацоўках у сваёй працы расказаў настаўнік беларускай мовы і літаратуры гімназіі № 1, сябра ТБМ імя Ф.Скарыны Юрась Каласоўскі.


Алена Быкава

Старшыня магілёўскага аддзялення СБП Мікола Яцкоў адзначыў неабходнасць аб'яднання намаганняў усіх творчых суполак у справе далучэння моладзі да плыняў беларускамоўнасці, нацыянальнай свядомасці і гістарычнай памяці.


Алена Маслова ўручае падарунак Тамары Аўсяннікавай

У працы "круглага стала" ўдзельнічала дарадца Пасольства Расіі ў Рэспубліцы Беларусь Алена Маслова, якая ўручыла памятныя падарункі асобным удзельнікам "круглага стала".

*Аліна САВІЦКАЯ.*

Магілёўскія ведамасці
www.mogved.by № 25 (3564). Аўторак, 2 красавіка 2013 года

«Круглый стол»

## Поэтом можешь ты не быть, а патриотом быть обязан

*Татьяна ПОДЛИПСКАЯ.*

ОО «Русское культурно-просветительское общество» совместно с Могилевской областной библиотекой им. В.И.Ленина провело заседание «круглого стола», посвященное Дню писателя и Всемирному дню поэзии.

Разговор за «круглым столом» шел о роли современной литературы и публицистики в гражданско-патриотическом воспитании молодежи. В дискуссии участвовали советник Посольства РФ, заместитель директора представительства «Россотрудничество» в Беларуси Елена Маслова, протоиерей храма Свято-Петро-Павловского прихода (д.Лесная) Георгий Соколов, председатель Могилевского отделения Союза писателей Беларуси Владимир Дуктов, председатель Могилевского отделения Союза белорусских писателей Николай Яцков, литераторы, работники библиотек, учителя и учащиеся школ, представители общественных объединений Могилева.

Участники «круглого стола» определили и обсудили ряд вопросов развития современной литературы, школьного воспитания, формирования высокоинтеллектуальной личности, гражданина Республики Беларусь.



# Пысінскія чытанні



**Аляксей Васільевіч ПЫСІН**

Нарадзіўся 22 сакавіка 1920 года ў вёсцы Высокі Борак Краснапольскага раёна Магілеўскай вобласці ў сялянскай сям'і. Першы верш надрукаваў у 1938 годзе у газеце "Чырвоная змена". У тым жа годзе паступіў у Камуністычны інстытут журналістыкі імя С.М.Кірава ў Мінску. З другога курса быў накіраваны ў Беластоцкую вобласць (уваходзіла ў склад БССР) на працу ў рэдакцыю Бельскай раённай газеты. У 1941-1945 гадах - у Савецкай Арміі, удзельнічаў у баях на Заходнім, Калінінскім, Ленінградскім, 1-м і 2-м Прыбалтыйскіх франтах. Быў двойчы паранены. З 1946 года працаваў у раённым друку, у абласной газеце «Магілёўская праўда». Скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы пры СП СССР у Маскве (1958 г.). У 1974-1981 гадах - сакратар Магілеўскага абласнога аддзялення СП БССР. Сябра СП СССР з 1950 года.

Узнагароджаны ордэнам "Дружбы народаў", медалямі. Заслужаны работнік культуры БССР (1980). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1968) за кнігу вершаў "Твае далоні".

Памёр 27 жніўня 1981 г.

Імя Аляксея Пысіна прысвоена Палужскай сярэдняй школе Краснапольскага раёна. У гонар А.Пысіна названа адна з вуліц г.Магілёва. На доме ў Магілёве, дзе жыў А.Пысін, адкрыта мемарыяльная дошка. На магіле паэта ўсталявана стэла. У Магілёўскай абласной бібліятэцы штогод праводзяцца Пысінскія чытанні.





Т.Аўсяннікава і сябры клуба "Святліца" удзельнічаюць у Пысінскіх чытаннях

Літаратурныя чытанні

"Магілёўскія ведамасці" 2 красавіка 2013 г.

## Сцежкамі паэта Аляксея Пысіна

**У Магілёўскай абласной бібліятэцы ў рамках Пысінскіх чытанняў, якія штогод праходзяць на Магілёўскай зямлі і прысвячаюцца аднаму з самых знакавых асоб айчыннай паэзіі — Аляксею Васільевічу Пысіну, нашаму земляку — ураджэнцу вёскі Высокі Борак Краснапольскага раёна, прайшла літаратурная вечарына «Паэзія праўды і мужнасці», падрыхтаваная супрацоўнікамі аддзела беларускай і краязнаўчай літаратуры.**

У аснову літаратурна-музычнай кампазіцыі былі пакладзены творы з юбілейных зборнікаў паэта: «Пойма» (1968), «Мерыдыяны» (1968); «Ёсць на свеце мой алень» (1978), «Яшчэ не скончана дарога» (1983), а таксама кніга вершаў «Твае далоні», за якую Аляксей Васільевіч Пысін у 1968 г. удастоены звання лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы. Літаратурная кампазіцыя суправаджалася мультымедыйнай прэзентацыяй, падчас якой госці імпрэзы ўпершыню пачулі аўдыязапіс вершаў А.В.Пысіна ў выкананні паэта, а таксама заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь Аляксандра Падабеда, артыста Аляксандра Уладамірскага. Гучала беларуская народная песня.

Члены літаратурнага клуба «Святліца» прачыталі вершы паэта: «Балада пра камбата», «Мяркуй, што робіш для душы сваёй...», «На схіле дня святла яшчэ даволі...», «Харошкі».

Віктар Іванавіч Арцем'еў, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, сябра паэта, расказаў аб захапленні А. Пысіна фальклорнай песняй, якую лічыў вяршыняй, узорам паэзіі. Уладзімір Уладзіміравіч Дуктаў, старшыня абласнога грамадскага аб'яднання «Саюз пісьменнікаў Беларусі», падзяліўся ўражаннямі аб апошнім прыжыццёвым зборніку паэта «Ёсць на свеце мой алень», расказаў аб сустрэчах з Аляксеем Васільевічам.

Госці вечарыны — члены літаратурнага аб'яднання «Ветэран», студэнты факультэта славянскай філалогіі МДУ імя А.А. Куляшова, мелі магчымасць яшчэ раз прайсці паэтавымі сцежкамі. Напісанае Аляксеем Пысіным кожным пакаленнем прыхільнікаў мастацкага слова прачытваецца пановаму, але нікога не пакідае абыякавым, уражвае і захапляе арыгінальнасцю, свежасцю думкі і глыбінёй выказанага пачуцця.

***Тамара КАЛІНІНА,***
***загадчыца аддзела беларускай і краязнаўчай літаратуры Магілёўскай абласной бібліятэкі.***

## Михаил ШУМОВ (Шульман): "Давно уже никто не читает мне стихов..."



Поброжу по осеннему лесу, увезу с собой полные карманы лесной тишины, особой, какая бывает только глубокой осенью, порадуюсь осенним грибам. Как бродили мы когда-то с



Лёшей Пысиным, и он под шелест мелкого осеннего дождичка читал новые стихи:

*Асенні лес, асенні лес,*
*Сухіх рабін нясгаснае святло!*
*Усе вышэй па дрэве дзяцел лез,*
*А больш нікога ў лесе не было…*

Давно уже нет Лёши, давно уже никто не читает мне стихов, да и леса того давно уже нет...».

*Даведка:*
*Міхаіл Шумаў (Шульман) - вядомы магілёўскі літаратар, ветэран вайны, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, зараз жыве ў Нью-Йорку.*

**На фотаздымку - Аляксей Пысін.**
*З асабістага архіва Віктара Арцем'ева.*

## Старажытная легенда

Напрыканцы сямідзясятых гагадоў бранскія літаратары запрасілі калег-магіляўчан у Красную Гару на літаратурныя чытанні. А затым кіраўнікі Магілёўскай вобласці не дазволілі правесці ў адказ літаратурную вечарыну ў Краснаполлі. Паэт Аляксей Васільевіч Пысін (на той час ён быў сакратаром Магілёўскага аддзялення Саюза пісьменнікаў) хваравіта перанёс адмову. Вельмі перажываў. Запрасіў мяне да сябе на кватэру. Павітаўшыся, паведаміў сумную навіну і сказаў з горыччу:

-- Магілёўцы -- хамутоўцы!

Пасля гэтага падышоў да кніжнай паліцы, дастаў адтуль кніжку Уладзіміра Караткевіча "Зямля пад белымі крыламі", адгарнуў на старонцы 57 і сказаў мне:

-- Чытай у голас!

І я прачытаў такую легенду:

*"Бог дзяліў між народамі зямлі. Адным тое, другім – тое. Прыйшлі беларусы... Вельмі ж пану Богу спадабаліся. Ён і пачаў нас надзяляць: "Рэкі вам даю поўныя, пушчы – нямераныя, азёры – нялічаныя. Спёкі ў вас ніколі не будзе, але і холаду пагатоў. Зажэрціся на багатай зямлі не дам, каб былі ўвішныя, кемлівыя, але і голаду ў вас ніколі не будзе. Наадварот, у голад шмат багацейшыя людзі будуць да вас прыходзіць. Не ўродзіць бульба, так уродзіць жыта ці яшчэ нешта. А яшчэ звяры і дзічына ў пушчах чарадамі, рыбы ў рэках – касякамі, пчолы ў борцях – мільёнамі. А травы – як чай. Жанчыны ў вас будуць прыгожыя, дзеці – дужыя, сады багатыя, грыбоў ды ягад заваліся. Людзі вы будзеце таленавітыя, на музыку, песні, вершы – здатныя.*



Віктар Арцем'еў

# Пысінскія чытанні

## Старажытная легенда

*На дойлідства – таксама. І будзеце вы жыць ды жыць, ну як...” Тут яго Мікола ў бок штурхае: “Пане Божа, ды вы падумайце. Гэта ж вы ім рай аддаеце! Гэта ж вы... божа мой! Ды яны пры іхняй языкатасці туды з сапраўднага раю ўсіх перавабяць! Яны ж языком менцяць – дай Бог нам з вамі”. Бог падумаў, крактануў, але назад адбіраць не будзеш. Сапраўды, ёсць ужо яна, зямля. Лані бягуць – лес варушаць. Рыба чаўны з вады выціскае. Дрэвы – да сонца... “Добра, – кажа, – зямля будзе рай. А каб не занадта вы перад маім раем ганарыліся – дам я вам найгоршае ва ўсім свеце начальства. Яно вам таго раю трохі збавіць дый пыхі трохі вам саб’е. Гэта вам для раўнавагі”.*

Аляксей Васільевіч узяў Караткевічаву кніжку і яшчэ раз ужо сам перачытаў уголас легенду. І не раз, і не два мы яшчэ вярталіся пазней да гэтай вельмі ўжо мудрай легенды. Аляксей Васільевіч параіў мне абавязкова купіць гэтую кніжку ў букіністаў. Што я і зрабіў ахвотна. І не каюся.

## Увекавечаныя памылкі

Бывае і такое... Спачатку мемарыяльная дошка, што усталявана на доме, дзе жыў Аляксей Пысін, была на рускай мове. Калі літаратары пачалі абурацца, перарабілі па-беларуску, напісаўшы імя па бацьку з памылкай - *“ВАСІЛЬЯВІЧ”*. А трэба пісаць *“ВАСІЛЬЕВІЧ”*. Але ж ёсць там і другая памылка, якую не адразу убачыш. Чытаем, што паэт жыў у *БУДЫНКУ*. Кожны з пісьменнікаў, усе людзі ўвогуле, у тым ліку і мы з вамі, жывём у дамах. Хаця А.В.Пысін летам 1954 года ў Чэрыкаве з жонкай і малымі дзецьмі сапраўды жыў у будынку, дакладней у пуні: у адным вуглу сям’я паэта тулілася, а ў другім конь стаяў. Ды мемарыяльная дошка не на той пуні ў Чэрыкаве красуецца, а ў Магілёве на доме № 35-А, не на будынку. Ёсць яшчэ памылка і на гранітным помніку Аляксею Пысіну на Польскіх могілках у Магілёве: слова *“ПРЭМІІ”* ператварылася ў бронзавае *“ПРЕМІІ”*. Відаць, не пашанціла паэту-класіку на адукаваных нашчадкаў. І калі ўсё гэтыя памылкі выпраўляцца – ніхто не ведае...

У ГЭТЫМ БУДЫНКУ







Віктар Арцямьеў

# Сяргей Чыгрын. Згадкі



## Адчуванне сэрцам

Здавалася, што ён будзе жыць заўсёды... Апантаны, шчыры, цікавы, бадзёры і культурны. Валянцін Іванавіч Ермаловіч — мой дарагі настаўнік, сябра, дарадца. Пазнаёміўся я з ім летам 1974 года, калі паступіў на тэатральнае аддзяленне Магілёўскага культасветвучылішча.

Вельмі часта Валянцін Ермаловіч гутарыў са мной, цікавіўся маім жыццём, называў мяне сваім земляком, заходнікам. Мне ад гэтага было цяплей і лягчэй. А яшчэ Валянцін Іванавіч заўсёды размаўляў на беларускай мове. І ўсе навучэнцы, якія з ім гутарылі, стараліся размаўляць таксама па-беларуску.

Даведаўшыся, што я пішу вершы, Валянцін Іванавіч аднойчы мне сказаў: “Я гутарыў са сваім сябрам паэтам Аляксеем Пысіным пра цябе. Заўтра ў памяшканні рэдакцыі “Магілёўскай праўды” будзе пасяджэнне абласнога літаратурнага аб’яднання. Выберы найлепшыя вершы і схадзі туды...” .

Я вельмі хваляваўся, бо ўпершыню выносіў на суд свае яшчэ кволыя першыя творы. У рэдакцыі сустрэлі мяне шчыра і дабрадушна. За сталом моўчкі сядзеў Аляксей Васільевіч Пысін. Маўчаў ён і тады, калі ўсе па чарзе чыталі свае вершы (пераважна рускамоўныя). Пасля паэты паміж сабою пачалі спрачацца і нават сварыцца. Напрыканцы літаб’яднання загадчык ідэалагічнага аддзела газеты тварышч Ізотаў даў слова Аляксею Пысіну. Аляксей Васільевіч ціха сказаў: “З усіх вершаў, якія тут прагучалі, мне найбольш спадабаліся вершы Сярожы Чыгрына. Іх я і буду прапаноўваць на нашу літаратурную старонку”.

Праз некалькі дзён я атрымаў ад Пысіна ліст, дзе ён прасіў тэрмінова прысласць два вершы, выбраныя з усіх мной прачытаных для літстаронкі. Я даслаў адзін верш пра хлеб. Ён і быў надрукаваны ў магілёўскай абласной газеце.

За тры гады вучобы ў Магілёве з Валянцінам Ермаловічам і Аляксеем Пысіным мне давялося не раз прымаць удзел у літаратурна-музычных вечарынах і сустрэчах з чытачамі. У Магілёўскім абласным аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі Валянцін Ермаловіч быў адказны за нумары мастацкай самадзейнасці, а Аляксей Пысін — за літаратурную частку. Дзе мы толькі на Магілёўшчыне не былі! Дзе мы толькі не выступалі! Гэта быў рамантычна-светлы і найцікавейшы час майго юнацтва...

З ініцыятывы А.Пысіна мы разам з В.Ермаловічам выдавалі ў вучылішчы рукапісны літаратурны часопіс “Лучынка”. Знайсці б цяпер хоць адзін нумар...

Валянцін Ермаловіч вельмі любіў беларускую паэзію. Ён вучыў мяне дэкламаваць вершы са сцэны. Асабліва ў той час мой настаўнік захапляўся паэзіяй Янкі Непачаловіча. Неяк паехалі выступаць на Краснапольшчыну. У сельскім Доме культуры сабралася поўная зала людзей. На першым радзе сядзелі кіраўніцтва мясцовага калгаса, Аляксей Пысін, Валянцін Ермаловіч. А я на сцэне чытаю Янку Непачаловіча:

*Хоць нельга і розум, і сэрца*
*Пакласці на шалі,*
*Ды ўсё ж чалавек пазнаецца*
*Па крупнай дэталі...*

Зала прыціхла. Аляксей Пысін, апусціўшы галаву, нешта думаў, а пасля сказаў: “Добра, Сярожа, добра!..”

## Аляксей Пысін і Беласточчына

Жыццё і творчасць беларускага паэта Аляксея Пысіна былі звязаны з Беласточчынай (Польшча), хаця сам паэт нарадзіўся і жыў далёка ад беластоцкай зямлі — на Магілёўшчыне. Беласточчыну ён палюбіў, відаць, тады, калі 19-гадовага юнака ў 1939 годзе накіравалі ў Бельск. А было гэта якраз пасля ўз’яднання Заходняй Беларусі з БССР. Аляксей Пысін у той час вучыўся на другім курсе Мінскага камуністычнага інстытута журналістыкі. Студэнта Пысіна на датэрмінова і накіроўваюць на працу ў Бельскую раённую газету на пасаду літсупрацоўніка. Там ён вучыцца пісаць, сустракаўся з беларусамі Бельшчыны, гутарыў пра жыццё, заводзіў першыя знаёмствы. Калі б не вайна, Аляксей Пысін мог застацца на Беласточчыне назаўсёды.Але юнака забралі на фронт. Хутка пачалося адступленне аж да Гомеля, а потым эвакуацыя на Урал, у запасны полк, а далей шляхі вялі на фронт...

Вайну прайшоў сувязістам, двойчы быў паранены. Дамоў Аляксей Пысін дэмабілізаваўся ў 1946 годзе. Але лёс яго больш не закінуў у Бельск, бо Беласточчына ўжо стала польскай тэрыторыяй. Праўда, А.Пысін заўсёды адсочваў падзеі, якія адбываліся на Беласточчыне. У 1965 годзе, калі ў Гарадку (раённы цэнтр на Беласточчыне. — С.Ч.) пачалі будаваць Дом культуры, дзе было месца і для бібліятэкі, ён напісаў ліст у рэдакцыю беларускага тыднёвіка “Ніва” ў Беласток: *“Дарагія сябры! Прашу неяк пераслаць маю кніжку Дому культуры ў Гарадку. Аляксей Пысін. Магілёў, 14 жніўня 1965 г.”* Гэта быў зборнік вершаў Аляксея Пысіна “Мае мерыдыяны”.

Рэдакцыя “Нівы” вядома ж перадала кнігу Дому культуры ў Гарадок. А рэдактар тыднёвіка Георгій Валкавыцкі даслаў у Магілёў Аляксею Пысіну “Ніву”, штогоднік “Беларускі каляндар” і літаратурны альманах “Белавежа”. Аляксей Пысін, калі атрымаў бандэроль, вельмі ўзрадаваўся, расхваляваўся. Ён адразу напісаў пісьмо ў адказ: *“Паважаны таварыш Валкавыцкі! Сардэчна ўдзячны за “Ніву”, “Беларускі каляндар”, “Белавежу” і тое задавальненне, якое атрымліваю ад чытання твораў беластоцкіх журналістаў і пісьменнікаў. У мяне даўняя мара: наведаць Бельск, у гэтым горадзе застала мяне мінулая вайна. На нашым з’ездзе (у красавіку) буду размаўляць на гэту тэму ў Саюзе пісьменнікаў. Дасылаю новыя вершы. Прывітанне ўсім вашым супрацоўнікам. З глыбокай павагай А.Пысін. Магілёў, 13.02.1966 г.”*

Калі рэдактар атрымаў ліст з Магілёва ад А.Пысіна і яго вершы, ён адразу аддаў іх у друк. І 20 сакавіка 1966 года на першай старонцы “Нівы” яны былі надрукаваны. Пазней гэтыя вершы ўвойдуць у кнігу паэзіі А.Пысіна “Тваё далоні” (1967), за якую ён у 1968 годзе атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі імя Янкі Купалы.

Аляксей Пысін вельмі любіў чытаць беларускі тыднёвік “Ніва”. Калі ён яго атрымліваў, то чытаў усё да драбніц. А потым аб прачытам расказваў іншым магілёўскім літаратарам. 16 лістапада 1966 года ён піша рэдактару “Нівы” Г.Валкавыцкаму ліст, у якім просіць аформіць падпіску “Нівы” на 1967 год і сабе, і свайму сябру — магілёўскаму пісьменніку-сатырыку Івану Аношкіну. Разам з просьбай Аляксей Васільевіч даслаў свой хатні адрас і адрас Аношкіна. Магчыма, рэдакцыя ім выпісала “Ніву” і яны шмат гадоў яе чыталі. А 23 кастрычніка 1966 года “Ніва” на першай старонцы апублікавала яшчэ тры вершы А.Пысіна – “Агонь ці кроў сцякае на дубровах...”, “Рэдка бачым мы пушак сваіх...”, “Не ўсе лясы мае загрэлі...”, якія таксама ўвайшлі ў кнігу паэта “Твае далоні”.

Вершы Аляксея Пысіна друкаваліся і пазней у тыднёвіку “Ніва”. Але самым шчаслівым для паэта быў 1980 год: 19 і 20 чэрвеня паэт пабываў на Беласточчыне. Прыехаў з пісьменнікам Аляксеем Гардзіцкім. Гэтая паездка на Беласточчыну была для Аляксея Пысіна вяртаннем у маладосць. Госці з Беларусі ў той час цікавіліся жыццём беларусаў на Беласточчыне, найперш іх культурнай і літаратурнай творчасцю. А.Пысін з А.Гардзіцкім пабывалі ў рэдакцыі “Нівы”, пазнаёміліся з яе супрацоўнікамі, вялі гутаркі пра ўзнікненні пры Беларускім грамадска-культурным таварыстве і “Ніве” літаратурнага асяродку, пра яго дзейнасць. Беларускія пісьменнікі расказалі пра літаратурныя справы ў Беларусі, пра культуру і гісторыю. Затым іх знаёмілі з Беластокам.

Візіт Аляксея Пысіна і Аляксея Гардзіцкага ў “Ніве” асвятлялі гісторык Мікола Гайдук і паэт і Міхась Шаховіч.

(Заканчэнне на с.7)

